# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 43 (1287) ГОД XXV БЕЛАСТОК 26 КАСТРЫЧНІКА 1980 г. ЦАНА 2 ЗЛ.



КРАЯЗНАЎЧЫ СЛОЎНІК

## Валынцы

Калі б нехта захацеў заглыбіцца ў мінулае гэтай маленькай вёсачкі, што прысела над дрыгвястым „ройстам“ у якіх шасці вярстах на поўнач ад Кузніцы, то, напэўна, выкалупаў бы тут не адну цікаўнасць з гісторыі гэтых, прытуленых да дзяржаўнай граніцы ваколіц.

Трэба меркаваць, што пачаткі сённяшніх Валынцаў сягаюць не далей паловы XVI стагоддзя, калі пасля славутай „валочнай памеры“ паўстала большасць нашых вёсак-вуліцовак. Але нават сама назва „Валынцы“ ў тутэйшым беларуска-крывіцкім асяроддзі непераможна спакушае заглянуць у больш ранейшыя часы — у эпоху Гарадзенскага княства, бо якраз у яго склад уваходзілі гэтыя землі ў XII-XIII ст. Пазіраеш на гэтыя маляўнічыя пагоркі з густой чупрынаю сасоннікаў ды бярэзнікаў і на зацішныя лугавіны абапал безыменных рачулак і ручаёў і згадваеш, што ўсё гэта знаходзіцца ўсяго ў „паўстаянні“ (каля 15 км) ад старажытнага Гародна. То ж, мабыць, тут захапляўся паляваннем з сокаламі князь Усевалад Давыдавіч — спадчынны ўладальнік Гарадзенскага княства і каханы зяць самага вялікага князя кіеўскага Уладзіміра Манамаха. Тут спасобіў ён сваю дружыну ў цяжкія паходы ці то ў багатую Полацкую зямлю, ці ў бедную, але ваяўнічую Літву. Трывала ўпісаліся сыны Гарадзеншчыны ў гісторыю, нават у бессмяротным „Слове аб палку Ігаравым“ знаходзім такі паэтычны радок: *„Не бысь ту брата Брячислава, ни другаго —Всеволода. Един же изрони жемчюжну душу из храбра тела чрес злато ожерелие. Уныли голоси, пониче веселие, трубы трубят городеньскии. Ярославе и вси внуце Всеславли! Уже понизить стязи свои, вонзить свои мечи вережени — уже бо выскочите из дедней славе“.* Але гарадзенскія воі зусім не „выскачылі“ са славы сваіх продкаў. Бачым іх сцягі ў паходах таксама супраць татараў, як і на полі Грунвальдскай бітвы. З сярэдзіны XII ст. гэтыя землі спалучае доўгая і цесная сувязь з Галіцка-Валынскім княствам, і хто ведае ці не ў тыя часы прыйшла сюды разам з насельнікамі з Валыні і цяперашняя назва вёсачкі? Часам назвы бываюць больш трывалымі, чым каменныя сцены...

А і традыцыя таксама захавалася: яшчэ ў XVII стагоддзі сяляне тутэйшых вёсак былі абавязаны ахоўваць замак у Гародне. На пераломе XIX і XX стагоддзяў у Валынцах налічвалася 9 участкаў-валокаў зямлі, сядзелі тады на іх сяляне з прозвішчамі Антанеўскі, Валынец, Валько, Індушко, Кісель, Клім, Пянткоўскі, Якубчык, Ялашэўскі.

На даўнюю гаспадарчую тут дзейнасць паказвае і багацце назваў частак палёў і лугоў: Апошняе, Балота Дворнае, Балота Сваё, Брадалеўшчына, Бярэзнік, Высокая Шахаўніца, Гайке, Гара, Глінішча, Два Загоны, Дворнае, Дуброўка, Карклін, Канцэ, Кладкавыя, Кузярынак, Луг, Лужок, Ройст, Садке, Танкеніхі, Чтэры Загоны, Чырвоны Крыж, Чвэрці, Шнурке, Шыроке.

Надта ж неспакойна гаспадарылася людзям на гэтых палетках. У часе апошняй вайны немцы, падазраючы валынцаў у супрацоўніцтве з партызанамі, загадалі цалкам зніштожыць вёску: не засталося нават фундаментаў і садавіны. Але вёска не здалася — дапамагала савецкім партызанам, што мелі сваю базу ў лесе Канцэ. Асабліва часта наведваліся яны на хутар Баляслава Пярэды. Гэта стала вядома немцам. Яны арыштавалі Пярэдаў — бацьку Баляслава і сына Рамана. Ім пагражаў расстрэл. Жонка і маці кінулася на ратунак: залажыўшы ўсю маёмасць, здабыла крыху золата і спрабавала выкупіць арыштаваных. Камендант згроб у валасатую жменю царскія чырвонцы, блішчастыя пярсцёнкі ды пераліўчатыя цэпкі, узважыў і сказаў: „Гэта за аднаго. Цяпер давай за другога“. Жанчына ўпала на калені і заенчыла: „Паночку, не маю ўжо нічога!..“ Немец глянуў на яе і са злосцю крыкнуў: „Тады выбірай: мужыка або сына выпусціць?“ І жанчына, вядома, выбрала сына Рамана, яго вырвала ад смерці. Мужа немцы расстралялі ў той жа дзень.

Пасля вызвалення жыццё ў Валынцы вярталася натужліва. Людзі доўгі час сядзелі ў зямлянках ды хлявушках,

(Працяг на стар. 5)

ГУТАРКА ДЗЯДЗЬКІ МАКСІМА

## Каб не горш...

Вяртаўся я з поля. Ужо вечарэла. Цэлы дзень араў пожню. Вядома, лепш і зручней было б зрабіць гэта пры дапамозе трактара. Я, аднак, ужо амаль цэлы год рэдка карыстаюся дапамогай свайго стальнога каня. Акумулятар адслужыў сваё і зусім ужо не прымае электраэнергіі. Трактар даводзіцца запускаць або „на расцяжку“, або „на попых“. Для „расцяжкі“ патрэбны другі трактар, а „на попых“ неабходна склікаць наймацнейшых людзей з цэлай вёскі. Часам удаецца мне абмежавацца толькі адной маёй кабылкай. Значыць, падключаю яе да трактара, Палашка сядае за рулём, я бяру ў рукі лейцы і пугу. Цяпер усё залежыць ад нашага ідэальнага супрацоўніцтва. Часам гэта ўдаецца, але часам... як тады, калі ў маёй Палашкі ногі пераблыталіся і яна замест спыніць пякельную машыну, націснула на педаль „газу“, і трактар, быццам ашалелы, рвануўся ўперад. Палашка, каб не раздушыць мяне і кабылку, раптоўна павярнула ўбок, пастронкі ад орчыка падцялі кабылку, яна павалілася, а я, анямелы ад жаху, стаяў і глядзеў, як хамут падходзіць маёй кабылцы пад горла і зараз пачне яе душыць.

— Тормаз! Тормаз! — закрычаў я ўрэшце на ўсё горла. Пакуль, аднак, Палашка спахапілася, трактар паспеў ужо з трэскам пераламаць плот, раздушыўшы пры гэтым некалькі курыц і спыніўся пад высокай старой грушай, якая ў гэтым годзе ўрадзіла на славу. Удар быў настолькі моцны, што ўсе грушы, нават яшчэ і няспелыя, пасыпаліся на зямлю. А мая бедная Палашка апынулася ў самым цэнтры грушабойнай бамбёжкі. Урэшце я сам не ведаў, што мне рабіць: ці жонку ратаваць, ці сцерагчы кабылку, ці за трактарам сачыць, ці грушы збіраць, каб суседавы свінні іх не з'елі.

Усё, на шчасце, неяк само па сабе ўладкавалася. Нездарма ж разумныя людзі гавораць, што няма таго дрэннага, каб на горшае не выйшла. Значыць, калі табе здаецца, што бяда ўжо душыць за горла, дык падумай, што магло б быць яшчэ горш, і цешся, браток, што так не ёсць.

Я, для прыкладу, плюнуў на няспраўны акумулятар і на парваныя трактарныя шыны, бо аднаго і другога нават за долары зараз ужо не купіш, а хабар людзі бяруць цяпер вельмі неахвотна і з вялікім страхам. Перасеў я на аўсяную цягу, як у часы майго дзяцінства бывала, і неяк разам з Палашкай пхаем бяду наперад. У гэтым годзе, дарэчы, нават і спраўным трактарам мала дзе давялося б папрацаваць. Ёсць па-суседску ў нас пэгээраўскае поле. У адным месцы над далінай, дзе яно спалучаецца з сенажаццю, яшчэ дагэтуль стаіць няскошаны рапс, а крыху далей тырчаць ячмень і кукуруза, якая парасла ў іх так рэдка, што аніякая машына гэтага пазбіраць не зможа. Колькі разоў праязджаю я побач, заўсёды нейкі боль адзываецца ў сэрцы, што на затрату ідзе такое дабро. То ж яшчэ памятаю той час, калі бацькі прымушалі мяне хадзіць па пожні з граблямі і дачыста заграбаць астаўшыеся каласы.

Аднойчы давялося мне пагутарыць з дырэктарам гэтай пэгээраўскай гаспадаркі. Гавару я яму, што я стары селянін і надабавак радны гміннай рады і неспакойна мне, калі гляджу на такое марнатраўства.

— Вы памыляецеся, паважаны дзядзька Максім, — ён мне на тое. — Пры маштабах нашай таварнай прадукцыі гэта аніякае марнатраўства, а толькі невялікі, малаістотны працэнт прадукцыйных затрат, якія здараюцца ў кожнай вытворчасці. Рэч зусім нармальная.

Я слухаў і вушам сваім не верыў. Заўважыў гэта дырэктар і кажа:

— Каб мы дазволілі сабе на забаву

(Працяг на стар. 5)

Новыя вершы

* ✻ *

*Ноч накрыла разбіты бліндаж*
*І калючага дроту цянеты.*
*Толькі немы крык маці Кураж*
*Мяне раптам вярнуў з таго свету.*

*Я адклікнуўся, каб запытаць,*
*Хоць паранены быў, анямелы,*
*Што хацела яна мне сказаць,*
*Што яна мне сказаць хацела?*

* ✻ *

*У бітвах са светам варожым,*
*У выпрабаваннях жыццёвых*
*Я пераацэньваў можа*
*Уздзеянне зброі ці слова.*
*Бо толькі тады яны варты*
*Людскога даверу і славы,*
*Калі адным злучаны гартам,*
*Калі ў адным сплаўлены сплаве.*

**Максім Танк**



БЕЛАРУСКАЯ ПЕСНЯ-80

*Спяваюць жанчыны з Палічнай. Фота М. Шаховіча.*

Імпартумар

# ЗНАХОДКА

Іду я па тэрыторыі завода. У буфет іду. Іду і бачу — цвік ляжыць. Нехта кінуў. Думаю: „Давай падыму. Навошта, каб прападаў. Цвік у гаспадарцы спатрэбіцца". Нахіляюся. Спрабую падняць. Ды дзе там! Цвік убіты ў рэйку.

Схадзіў па лапу. Цягну сваю знаходку разам з рэйкай. А цвік ні з месца.

Сябры з буфета вяртаюцца. Пасміхаюцца: што ты там, Клопкін, цягнеш? Пасмяяліся, але пачалі дапамагаць. Цягнем усёй брыгадай. Не выцягваецца. Моцна засеў.

Клікнулі дапамогу. Натужыліся. Здаецца, крышачку падаўся. На дошках, што да бруско прыбіты, станіна чыгунная стаіць. І балтамі наглуха прывінчана. А на станіне ўзвышаецца станок — жалязяка тоны на тры...

Збегаў па аўтакран. Перасадзілі ўвесь груз у машыну. Павезлі. На прахадной крыху затрымалі. Я растлумачыў: маўляў, ішоў у напрамку буфета. Бачу на дарозе цвік ляжыць. Пыліца, іржавее.

...Назаўтра іду я да буфета. Бачу — кола без прыгляду стаіць...

**А. Машыр**

З „Весніка Задрыпоніі"

**ПРАГНОЗ ПАГОДЫ**

У найбліжэйшыя двое сутак чакаецца нармальная ўстойлівая пагода. Тэмпература паветра ад мінус дзесяці да плюс пятнаццаці градусаў. Вецер слабы, пры навальніцы парывісты.

**ПЫТАННЕ ГАПКІ**

Ці можна чалавека лічыць бессярэбранікам, калі ён за што купіў, за тое і прадаў?



Нарэшце ўзяўся за кнігі... Здаў у макулатуру.





### ПАМАГАТЫ

— Дарагі, ці не паможаш мне вымыць посуд?

— У мяне сёння быў вельмі цяжкі дзень, і я страшэнна змучыўся.

— Я хацела толькі праверыць цябе, дарагі, посуд даўно вымыты!

— Дарагая, я пажартаваў. Я ахвотна памог бы табе.

### СЛУЖБОВЫ СМЕХ

*Начальнік выдаў анекдот.*
*Вакол усе рагочуць,*
*І толькі нейкі „ідыёт"*
*Дзяліць той смех не хоча.*
*Ну хоць бы напаўзуб „хі-хі",*
*Ніяк не рэагуе.*
*— А можа ён зусім глухі?*
*Начальніка не чуе?*
*Тут планавік спытаў яго:*
*— Што ж не смяешся, браце?*
*— Дык я ж не ведаю яго...*
*Бо я не ў вашым штаце.*

**Міхась Скрыпка**

### ЗАПЫТАННЕ Ў АДКАЗ

*Які б дала адказ, —*
*Пытае Янка Любу, —*
*Каб я прапанаваў*
*Пайсці са мной*
*Да шлюбу?*
*— Так нечакана, аж*
*Ніякавата мне.*
*А што, калі б*
*Я не сказала „не"?*

**Уладзімір Мацвеенка**

### НАВОШТА ДРОЖДЖЫ?

— Цётка, — пытае дзяўчынка ў магазіне, — навошта вы так многа дрожджэй купляеце, мабыць, піражкі пячы будзеце?

— Ды не, дачка, піражкі я ў кандытарскай куплю, а дрожджы мне для іншай справы патрэбны... Вось падрасцеш — даведаешся...

### СЛУШНАЯ ПАРАДА

Ідзе п'яны Кастусь дадому. Што не ступіць крок наперад, а яго цягне на тры-чатыры крокі назад. Насустрач яму Міколка:

— А вы, дзядзьку, павярніцеся кругом і ідзіце назад, так хутчэй будзеце дома.

ГУМАР З БАРАДОЮ

### ДАГАДЗІЎ

— Слухай, цыган, ты прадаў мне сляпую кабылу.

— Табе ж ляпей, — адказвае цыган, — бо будзе яна есці салому, а думаць, што сена.

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

У лонданскім метрапалітэне Джон пытае ў Джыма:

— Хто гэты чалавек, з якім ты так цёпла прывітаўся?

— Хто яго ведае, але зараз я загляну ў яго бумажнік, там павінна быць візітная картачка...

*

На з'ездзе тэрапеўтаў. Выступае старшыствуючы:

— Усе, хто за рэзалюцыю, высуньце, калі ласка, язык і скажыце „а".

*

— Мне заўсёды не шанцуе з дзяўчынамі, — сказаў Вілі. — Учора я запрасіў у рэстаран чароўную дзяўчыну. І трапіўся ёй у салаце маленькі чарвячок. Яна паклікала кельнера і кажа: „Забярыце, калі ласка, гэтага агіднага слізняка!" І што ж ты думаеш? Кельнер хапае мяне за каўнер і пачынае цягнуць з-за стала!

— Зразумеў?



Супрацьэнергакрызісная машына „Made in Zadrypanka".



— Не плач так горка з-за таго, што бацькі супроць нашага шлюбу, я знайду сабе іншую нарачоную.

**РАЗВУЧВАЕМ БЕЛАРУСКІЯ ПЕСНІ**

## МОЙ РОДНЫ КУТ




**Словы Я. Коласа**
**Музыка І. Лучанка**

Мой родны кут, як ты мне мілы!
Забыць цябе не маю сілы!
Не раз, утомлены дарогай,
Жыццём вясны мае убогай,
К табе я ў думках залятаю
І там душою спачываю,
І там душою спачываю.

Вось як цяпер, перада мною
Ўстае куточак той прыгожа,
Крынічкі вузенькае ложа
І ёлка ў пары з хваіною,
Абняўшысь цесна над вадою,
Як маладыя ў час кахання,
Ў апошні вечар расставання.

Люблю цябе, мой бераг родны,
Дзе льецца Нёман срэбраводны,
Дубы дзе дружнай чарадою
Стаяць, як вежы, над вадою...
Мой родны кут, як ты мне мілы!
Забыць цябе не маю сілы,
Забыць цябе не маю сілы...



### ПАКАРАНАЯ БЕСКАРЫСЛІВАСЦЬ

Састарэлая амерыканка Мэры Элен Вулф вырашыла было зрабіць падарунак медыцынскаму каледжу роднага штата Агаё. Яна завяшчала яму свой труп для навуковых даследаванняў. Падзякаваўшы за шчодры падарунак, адміністрацыя каледжа тым не менш паведаміла, што можа прыняць яго толькі ў тым выпадку, калі разам з трупам будзе ахвяравана яшчэ 60 долараў і аплачана перавозка цела ў каледж. Даведаўшыся аб гэтых умовах, Вулф усклікнула: „Няхай ужо мяне лепш закапаюць!"

### ВОСЬ ГЭТА ШЛЮБ!

Кажуць, што сярод сучасных англічан усё менш можна сустрэць палкіх закаханых, якіх калісьці вялікі Шэкспір узяў у якасці літаратурных прататыпаў для стварэння неўміручых вобразаў Рамэа і Джульеты. Зараз ім больш уласціва стрыманасць.

Але вось сенсацыя! Гэта лонданцы Фрэд і Пітэр Вінхель. Яны знаходзяцца ў шлюбе аж 16 гадоў і да гэтай пары не могуць нахваліцца шчырасцю сваёй узаемнай прыхільнасці, бо цвыцам толькі ўчора адбылося вяселле. А сакрэт, аказваецца, у тым, што з гэтых шаснаццаці год Фрэд і Пітэр пражылі сумесна ўсяго каля трох, астатні час былі ў разлуцы. Бо то адзін, то другі па чарзе адбывалі тэрмін пакарання ў турме за кражу. Затое іх сустрэчы, паводле сцвярджэнняў мужа і жонкі, заўсёды з'яўляюцца вельмі жаданымі, гарачымі, а ўзаемныя пачуцці паюнацку свежымі.



У чарзе за півам заўсёды можна даведацца, дзе ракі зімуюць.